# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 39 (1022) ГОД XX 28 ВЕРАСНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.





### ЗУБРЫНЫЯ СЦЕЖКІ

*Зубрыныя сцежкі схаваны ў густым гушчары,*
*Заблытаны лісцем, рупліва прыкрыты іглiцай.*
*Па іх асцярожна і чуйна ступаюць зубры,*
*Каб не спатыкнуцца і ў бездань часоў не зваліцца.*

*Да скону ім любы бязмоўе сівых верасоў,*
*Рабое кустоўе і пнёў заімшэлыя дзежкі.*
*І, можа, таму у глухіх сутарэннях лясоў*
*Пісьмёнамі інкаў віюцца зубрыныя сцежкі.*

*Панурасць і вільгаць у познім замглёным бары,*
*Мядзяныя кроплі павіслі на вейках яліны.*
*Прыслухайся — дзесьці павольна ступаюць зубры,*
*Нібы курганы — іх цяжкія гарбатыя спіны.*

**Павел Марціновіч**

# Руно-амаль залатое

Да **Марыі** і **Мікалая Пучынскіх,** якія жывуць на калёніі за Новым Ляўковам, накіраваў мяне начальнік Нараўкаўскай гміны тав. Язэп Навіцкі.

— Гэта ля дарогі ў вёску Луку, — паясняў ён. — Дом вялікі, прыгожа размаляваны, сярод дрэў, а вакол на выгане пасуцца авечкі.

І сапраўды, застаў я Марыю Пучынскую на яе панадворку, занятую стрыжкай авечак. Белая, доўгая воўна тоўстым слоем адставала ад авечай скуры пад хуткімі, аднак ласкавымі рухамі чуллівых жаночых рук, узброеных вялікімі „авечымі“ ножнамі.

Авечая воўна зноў стала моднай ва ўсім свеце. Аказалася, што сучасная хімія яшчэ не ў сілах стварыць такую тканіну, якая сваімі якасцямі дараўнялася б да воўны. Пасля розных нейлонаў, крысталонаў, нонайронаў, крэмпліну і таму падобнай сінтэтыкі тэкстыльшчыкі зноў пакланіліся натуральнай воўне, якую толькі ў сілах вырасціць пародзістая авечка. На сусветных рынках цана на воўну пастаянна расце. Ды проста няма яе, а ўсё, што было, гавораць, ужо загадзя выкупілі кемлівыя японцы.

Найлепш тады было б наладзіць уласную прадукцыю чыстай воўны. І таму наша дзяржава стварыла спрыяльныя ўмовы для гадоўлі авечак. З прыблізных падлікаў вынікае, што кожная дарослая авечка носіць на сваёй скуры не менш чым 1000 зл. і гэтыя грошы адрастаюць, як шчавух у агародчыку, кожны год.

— Ці многа ў вас авечак? — звяртаюся да гаспадыні.

— Цяпер, здаецца, 50 штук, — гаворыць яна. — Але іх колькасць пастаянна ў нас змяняецца, бо мы пераважна гадуем ягнят і пасля іх прадаем. Вы лепш звярніцеся да мужа. Ён на выгане.

Мікалай Пучынскі заняты быў рамонтам агароджы, якая забяспечвае яго жывёлу. 50-гадовы мужчына з разумным тварам і прыветлівым позіркам.

— Шкада мне было пакідаць бацькоўскую гаспадарку, — пачаў ён свой расказ. — Столькі ж поту нашага ўлілося ў гэтую зямлю. А дзеці тады яш-

Працяг на стар. 4



*Старадаўнія камянічкі мо яшчэ памятаюць крокі паўстанца Валерыя Врублеўскага — каменданта былога „Писарско-егерского училища“ і паплечніка Кастуся Каліноўскага.*



*З-пад луку нішы віднеецца класічная вежа касцёла.*

# САКОЛКА

**РЭПАРТАЖ АБ САКОЛЦЫ ЧЫТАЙЦЕ НА СТАР. 3.**

# НА НОВЫМ ЭТАПЕ

Інтэрв'ю са старшынёй Беластоцкага навуковага таварыства др-ам **Янам Ясканісам.**

„НІВА“: *У палавіне бягучага года адбыліся вялікія змены ў тэрытарыяльным падзеле нашай краіны, у выніку якіх колішняя Беласточчына апынулася ў межах трох новых ваяводстваў, а сённяшняе Беластоцкае ваяводства займае самую ўсходнюю частку Польшчы. Ці гэта будзе ўплываць на далейшую дзейнасць БНТ?*

Я. ЯСКАНІС: Так, сапраўды знаходзімся цяпер у пераломным моманце: змяніўся ранейшы адміністрацыйны вобраз, а ў сувязі з гэтым змяніліся і нашыя апекуны. БНТ вырасла на папярэднім, больш абшырным Беластоцкім ваяводстве. Цяпер жа фармальна мы дзейнічаем на значна меншым абшары, аднак будзем працягваць даследаванне ранейшых праблемаў і тэмаў, якія выходзяць па-за межы цяперашняга Беластоцкага ваяводства. Грунтуецца гэта на тым, што, па-першае, сам горад Беласток з'яўляецца звышваяводскім навуковым цэнтрам, па-другое, у БНТ гуртуюцца людзі, якія займаліся і займаюцца навуковымі даследаваннямі на тэрыторыі ранейшага Беластоцкага ваяводства. Зрэшты, няма патрэбы навуку сілком уціскаць у рамкі тае ці іншай адміністрацыйнай адзінкі.

„НІВА“: *Ці сярод шэрагу рэгіянальных навуковых таварыстваў, што дзейнічаюць ва ўсёй краіне, наша БНТ вылучаецца якой-небудзь асаблівасцю?*

Я. ЯСКАНІС: І да гэтага значнай. Асаблівая роля БНТ вынікае са спецыфікі тэрыторыі, на якой яно дзейнічае. Тут знаходзіцца пагранічча паміж Польшчай з аднаго боку і Беларускай ССР і Літоўскай ССР — з другога. Калісьці гэтыя тэрыторыі складалі большыя сукупнасці з грамадскімі, культурнымі і проста людскімі сувязямі. Таму ёсць тут многа надта складаных праблемаў для даследавання, а ўсе яны вельмі цікавыя і каштоўныя для навукі. Ёсць тут некалькі моўных і культурных пагранiччаў: рубеж паміж славянамі і балтамі, які існуе ў польска-літоўскім пагранiччы, літоўскай нацыянальнай меншасці, ва ўзаемных польска-літоўскіх уплывах і ўздзеяннях; іншы рубеж — гэта пагранiчча паміж заходнімі славянамі і славянамі ўсходнімі, якое прадстаўлена тут сутыкненнямі моў, звычаяў, вераванняў, рэлігій у іх узаемных уздзеяннях і ўплывах на матэрыяльную культуру. Словам, Беласточчына з'яўляецца своеасаблівым мастом, дзе адны справы канчаюцца, а другія бяруць свой пачатак. Гэтае сужыццё працягваецца з дагістарычнай эпохі па сённяшні дзень. І таму надзвычай каштоўнымі з'яўляюцца даследаванні, якія праводзяць супольна польскія і савецкія вучоныя. Беласточчына з'яўляецца асабліва цікавым аб'ектам для этнаграфічных даследаванняў.

„НІВА“: *А што новае прадпрыймае кіраўніцтва БНТ у гэтай галіне?*

Я. ЯСКАНІС: У галіне этнаграфіі БНТ дагэтуль зрабіла не мала — былі праведзены даследаванні і паявілася шэраг публікацый. Аднак усё гэта не мела арганізацыйных рамак. Сярод шэрагу дзейнічаючых прадметных камісій БНТ не было этнаграфічнай камісіі, якая б занялася ўсё шырэйшымі даследаваннямі духоўнай і матэрыяльнай культуры Беласточчыны. Гэтую камісію мы створым у пачатку восені ў бягучым годзе на гадавой канферэнцыі БНТ. Хочам зацікавіць нашых этнографаў такімі займальнымі тэмамі, як даследаванне пагранiчча культур народнасцей, пражываючых на Беласточчыне, і іх узаемнага ўздзеяння, сённяшняй беластоцкай вёскі і працэсаў, якія вядуць яе з мінулага ў будучыню, уздзеяння гарадской культуры. Бо нам важны не столькі пошукі змуршэлых даўнасцей, як саха і інш., колькі аб'яднанне даследаванняў матэрыяльнай культуры ў яе непасрэдных сувязях з імкненнямі, перажываннямі і пераўтварэннямі ў светапоглядзе сучаснага жыхара беластоцкай зямлі. Ахвотна бачым тут удзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства, яго дзейсную дапамогу ў адкрыванні і вышукоўванні адпаведных аб'ектаў, а членаў навуковага гуртка пры ГП БГКТ — у навуковых даследаваннях. Садзеянне БНТ і БГКТ можа быць надта плённым. Усходнеславянскі этнас на Беласточчыне з'яўляецца адным з арганічных кампанентаў яе жыцця. Успрымаем яго як надта важны элемент, але без якога-колечы суб'ектывізму. І ён дагэтуль знаходзіўся і надалей будзе знаходзіцца ў коле зацікаўленняў нашых вучоных, што гуртуюцца ў розных камісіях: мовазнаўчай, гісторыі мастацтва і іншых, а таксама новай — этнаграфічнай.

„НІВА“: *Якія справы знаходзяцца ў сучасны момант, так сказаць, на варштаце ў БНТ?*

Я. ЯСКАНІС: Плануем 3-5 кастрычніка 1975 г. правесці навуковую канферэнцыю прысвечаную даследаванню Яцвягіі і пасляяцвяжскіх тэрыторый. З дакладамі на ёй выступяць вучоныя розных галін: археолагі, гісторыкі, мовазнаўцы, біёлагі і г.д. Гэта будзе падвядзенне вынікаў 20-гадовых даследаванняў вучонымі Польшчы і іншых краін яцвяжскай праблемы і вызначэнне новых напрамкаў навуко-

**(Працяг на стар. 2)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“



*Інтэр'ер музея.* *Фота В. Казлова.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# ДЗЯРЖАЎНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БССР

Дзяржаўны мастацкі музей БССР — адзін з маладых у Беларусі. Ён узнік на базе Дзяржаўнай карціннай галерэі, якая была адкрыта ў 1939 годзе ў сталіцы Беларусі — Мінску. Асноўны мастацкі фонд галерэі ў той час складалі творы рускіх і беларускіх мастакоў.

У гады II сусветнай вайны нямецка-фашысцкія акупанты разграбілі карцінную галерэю. Яны з педантычнасцю адбіралі лепшыя творы мастацтва і вывозілі іх у Германію.

Пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў карцінную галерэю прыйшлося ствараць занава. Былі знойдзены нязначныя рэшткі музейных фондаў і вернуты ў Мінск. Аднак, самых лепшых і каштоўных твораў знайсці не ўдалося. І нягледзячы на гэта, у першыя пасляваенныя гады галерэя пачала інтэнсіўна папаўняцца новымі набыткамі рускага, беларускага і заходняга мастацтва. Галерэя папоўнілася дасканалымі творамі рускіх мастакоў XVIII-XIX ст. ст., лепшымі творамі майстроў пэндзля многіх рэспублік Савецкага Саюза.

Дзякуючы вялікай арганізатарскай рабоце, праведзенай супрацоўнікамі галерэі па збору мастацкіх твораў, стварылася магчымасць у верасні 1945 г. адкрыць выстаўку прац беларускіх мастакоў, якая дала пачатак другому адкрыццю карціннай галерэі.

У 1946-1947 гадах колькасць твораў у фондах галерэі настолькі ўзрасла, што паявілася магчымасць адкрыць пастаянную музейную экспазіцыю рускага савецкага мастацтва. Але хутка далейшую дзейнасць галерэі пачало абмяжоўваць памяшканне. Улічваючы гэта, урад рэспублікі вынес рашэнне аб будаўніцтве новага спецыяльнага будынка для мастацкага музея. У 1957 годзе карцінная галерэя перабралася ў новае памяшканне ў Мінску па вуліцы Леніна. З гэтага часу яна стала называцца Дзяржаўным мастацкім музеем.

У сучасны момант у фондах музея захоўваецца звыш 10 тысяч твораў жаўным мастацкім музеем.

Дзяржаўны мастацкі музей БССР карыстаецца вялікай папулярнасцю ў працоўных рэспублікі. Выстаўкі беларускага мастацтва паспяхова дэманстраваліся ў Румыніі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, Фінляндыі і іншых краінах.

Дзяржаўны мастацкі музей БССР па праву прызнаны буйным цэнтрам нацыянальнай культуры. Сабраныя ў ім творы даюць магчымасць глыбей пазнаёміцца з мінулым і сучасным беларускага народа.

**Пётр Герасімовіч,**
загадчык аддзелам беларускага мастацкага музея.

---

**ШТО НОВАГА?**

# Колькі каштуе прэзідэнт?

У адзін з халодных лютаўскіх дзён з акна сорак чацвёртага паверха небаскроба, размешчанага ў Манхэтэне — сэрцы Нью-Йорка, выкінуўся чалавек. Самазабойствы адбываюцца тут нярэдка. Але ў гэтым выпадку звёў рахункі з жыццём не звычайны жыхар каменных джунгляў, а нехта Элі Блэк — прэзідэнт кампаніі „Юнайтэд брэнд". Расследаванне ў кангрэсе ЗША акалічнасцей гэтага забойства пацягнула за сабой доўгі ланцуг выкрыццяў, якія датычаць некаторых расходаў амерыканскіх кампаній за мяжой.

„Юнайтэд брэнд", напрыклад, мае вялікія бананавыя плантацыі ў Гандурасе. Яе прэзідэнт Элі Блэк патраціў 1.250 тысяч долараў на падкуп высокапастаўленых чыноўнікаў урада Гандураса. У выніку намечанае рашэнне аб устанаўленні новага 50-цэнтавага падатку на кожную скрыню бананаў, што ідзе на экспарт, так і засталося ў чарнільніцы — кампаніі ўдалося ўрэзаць гэту лічбу ў два разы. Праўда, скандальныя выкрыцці каштавалі генералу Лопесу Арэльяна крэсла прэзідэнта краіны.

Подкупы і хабар урадавым чыноўнікам за мяжой — практыка не адной „Юнайтэд брэнд". Дырэктары і прэзідэнты многіх іншых шматнацыянальных кампаній называюць гэта „звычайнай руцінай".

Падкамісія сената ЗША па справах шматнацыянальных карпарацый абнародавала нядаўна дакументы, якія сведчаць аб тым, што самалётабудаўнічая кампанія „Нортрап карпарэйшн" патраціла 30 мільёнаў долараў, якія аселі больш чым у дзесяці краінах, пракладваючы сабе з дапамогай хабару і подкупу шлях да выгадных здзелак. Як паказала расследаванне, грошы былі выкарыстаны для „незвычайных плацяжоў трэцім бакам".

Вялікая нафтавая манаполія „Голф ойл" унесла чатыры мільёны долараў у фонд правячай партыі Паўднёвай Карэі, дабіваючыся выгад для сваіх камерцыйных аперацый тут. Вядома, што немалыя грошы тая ж манаполія выплаціла былому прэзідэнту Балівіі генералу Бар'ентасу.

Прэзідэнт „Галф ойл" Боб Дорсі ў пісьме цяперашняму балівійскаму ўраду растлумачыў, што Бар'ентас атрымаў трэць мільёна долараў наяўнымі грашыма, а ў якасці падарунка — персанальны верталёт, на якім ён любіў лётаць у час сваёй выбарчай кампаніі. Праўда, падарунак аказаўся ракавым: генерал разбіўся іменна на гэтым верталёце...

Палітычная апазіцыя Балівіі, у тым ліку былы міністр горнаруднай прамысловасці Кірога Санта-Крус, сцвярджае, што „Галф ойл" давала хабар некаторым і цяперашнім міністрам і генералам.

Былы балівійскі прэзідэнт Хуан Хасэ Торэс удакладняе, што „Галф ойл" не толькі давала хабар, але і ўдзельнічала ў 1971 годзе ў змове з мэтай звяржэння яго ўрада. У Балівіі гэта карпарацыя выступіла ў той жа ролі, што кампанія „Інтэрнэшнл тэлефон энд тэлеграф" („ІТТ") у Чылі, якая цесна супрацоўнічала з ЦРУ ў змове супраць урада Сальвадора Альендэ.

Геаграфія такіх подкупаў і хабару вельмі вялікая. Яна ахоплівае большасць краін, дзе дзейнічаюць шматнацыянальныя кампаніі.

Шумныя гісторыі з хабарам занепакоілі Вашынгтон, які ўбачыў у іх урон для знешняй палітыкі і прэстыжу ЗША за рубяжом. Дзяржпэпартамент, як і трэба было чакаць, выступіў з заявай, што яму нічога не вядома аб дзеяннях кампаній.

**Ю. Г.**

---

**ПАЛІТЫЧНЫ КІРАЎНІК**

Партыйная арганізацыя Нараўкаўскай гміны з'яўляецца найбольшай гміннай арганізацыяй у Беластоцкім ваяводстве. Складаецца яна з 18 партыйных арганізацый, у якіх налічваецца 450 членаў.

9-асабовая экзекутыва гміннага камітэта на чале з Юрыем Бароўскім на сваіх пасяджэннях абмяркоўвае ўсе галіны жыцця і працы Нараўкаўскай гміны. Не так даўно на павестцы дня стаяла справа развіцця жывёлагадоўлі і працы сельскагаспадарчай службы. Былі выяўлены ўсе станоўчыя і адмоўныя бакі гэтага пытання. У канцы жніўня экзекутыва абмяркоўвала якасць падрыхтоўкі складаў ГС-у да скупкі закантрактаваных сельскагаспадарчых культур. (мх)

---

Пачатак на стар. 1

# НА НОВЫМ ЭТАПЕ

вых пошукаў. Заслужаны ў гэтай галіне шведскі вучоны К. О. Фальк неўзабаве пачне даследаваць тапаніміку на вялікім абшары верхняга басейна ракі Нарвы. Даследаванні будуць мець комплексны характар і іх мэта разглядзець паасобныя фазы засялення пасляяцвяжскіх тэрыторый. Абшар гэты надта цікавы, і даследавацца будуць не толькі тапонімы (мясцовыя назвы), але цэласць з'яў культурнага характару і захаваныя ў свядомасці тутэйшага насельніцтва веды пра саміх сябе і сваё мінулае.

Камісіі БНТ будуць займацца не толькі выключна навукова-даследчымі праблемамі, але і распаўсюджваннем і папулярызацыяй адкрытых культурных каштоўнасцей, а ўсё БНТ павінна выконваць, побач з інспірыруючай навуковыя даследаванні, важную ролю ў абмене і пераплыве інфармацыі, г. зн. функцыю, інтэгрыруючую вучоных розных напрамкаў і спецыялізацый. Як вядома, сучасная навука падзелена на надта вузкія спецыяльнасці, напрамкі, тэмы. Аб'яднаць іх у адзінае цэлае, стварыць спрыяльныя ўмовы для абмену навуковай інфармацыяй паміж спецыяльнасцямі — вось адна з надта важных функцый усіх рэгіянальных навуковых таварыстваў, а ў тым ліку і БНТ. Зрэшты, кожная камісія і БНТ у цэлым мае на варштаце многа важных спраў. Знаходзімся мы напярэдадні вялікіх, цікавых і каштоўных для ўсяго нашага рэгіёну прац.

Размову правёў **М. Гайдук**

---

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 27.IX.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Bot. 7.30 J. pol. 8.00 Hod. zwierz. 9.00 Pr. I prop. 9.15 Red. szk. zap. 9.25 Pr. dnia. 9.30 Za kierownicą. 9.55 Tatrzańska Jesień. 10.55 Piosenki hiszpańskie. 11.05 O życie 15-tu ludzi — film fab. CSRS. 12.45 Pr. muz. 13.15 Bajkowy koncert życzeń. 14.05 Postaw się nie zastaw się. 15.00 STUDIO 2.

**Niedziela — 28. IX.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 W starym kinie. 12.00 Lekt. Pegaza. 12.20 Radar. 12.35 Dzien. 12.55 Laureaci Konk. Chopin. 13.50 Tydzień. 14.20 Teatr Lalek — Poko. 15.25 Klub Sześciu Kont. 16.10 Sport. 17.00 Los. Toto-Lot. 17.15 Refl. ob. 17.30 Nie można było inaczej — film hiszp. 18.05 Tele-Echo. 19.15 Wieczor. 19.20 Dzien. 20.20 Dobr. dla dor. 20.30 U kresu sił — odc. I cyklu wg op. Conrada prod. fr. 22.00 Co kto lubi. 22.55 Sport.

**Poniedziałek — 29.IX.** 12.45 Tech Rol. Zoolog. 13.25 Hod. zwierz. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — film fab. radz. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Iwan Dworieckij „Człowiek z zewnątrz". Spektakl TV Radz. 21.45 Pr. publ. 22.25 Dzien. 22.45 Sport. 22.55 Mini rewia K. Gotta i W. Matouszki.

**Wtorek — 30.IX.** 6.30 Tech. Rol. Zoolog. 7.00 Hod. zwierz. 7.30 U kresu sił — odc. I filmu ser. fr. 9.00 Pr. dla najmł. kl. I Mat. 10.00 Dla szkół: J. pol. kl. II lic. 11.05. kl. III lic. 12.00 kl. IV lic. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Tuzin. 17.55 Fakty op., hip. 18.30 Studio Mł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Bracia Lautensack — film ser. NRD. 21.20 Świat, obycz., polit. 22.05 Dzien. 22.25 Sport. 22.35 Kwadrans dla Ewy Bem.

**Środa — 1.X.** 10.15 Bracia Lautensack — film ser. NRD. 11.05 Dla szkół: Hist. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Upr. rośl. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Bajka dla dzieci. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.40 Muz. w galerii rzeźby. 18.10 Patrol. 18.30 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bulwar Zachodzącego Słońca — film fab. am. 22.10 Czym żyje świat. 22.40 Dzien. 22.55 Inf., tow., prop. 23.05 Sport.

**Czwartek — 2.X.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Upr. rośl. 8.00 Kurs Inf. 9.00 J. pol. kl. I lic. 10.00 J. pol. kl. III lic. 11.35 Bulwar Zachodzącego Słońca — film fab. am. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Brat. 18.05 Przed ekr. 18.35 Rak, rozczarowania, nadzieje. 19.05 A tu jest Warszawa. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Tramwaj — film fab. wł. 21.25. Pegaz. 22.10 Dzien. 22.45 Sonaty fort.

**Piątek — 3.X.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Dla szkół: kl. IV — Muzeum Wojsk. Pol. 11.05 Pr. dla najmł. kl. II Czarodziejskie słowa. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Bot. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Kino Telesfora. 17.35 Zrób to sam. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Mała Encykl. Zwierz. — film. fr. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Cień tamtej wiosny — film fab. pol. 21.15 Panorama. 21.55 Kwadrans dla Stana Borysa. 22.15 Gospodarność i ja. 22.30 Dzien. 22.45 Inf., tow., prop. 22.55 Sport.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 26.IX.** — 8.15 Spektakl. 13.55 Film fab. 15.20 Koncert. 16.45 Piosenka — 75. 17.10 Film fab. 18.30 P. nożna. CSKA — Dynamo (Kijów). 2 połowa.

**Sobota 27.IX** — 12.45 Hokej CSKA — Torpedo. 2 i 3 tercja. 15.30 Film dok. 17.25 Film fab. 19.30 Film anim. 20.00 Koncert Zesp. Pieśni i Tańca im. Aleksandrowa.

**Niedziela 28.IX** — 11.30 Film anim. 12.00 Hokej. Spartak — Chemik. 14.15 Panorama międzynar. 15.00 Pr. muz. 17.00 Cyrk. 18.00 Klub film. 19.30 Pr. rozr.

## КІНО

**Białowieża** Ktoś czyha na moje życie — czes. 2—3.X. Romanco o zakochanych — radz. 4—5.X.

**Czeremcha** Pułapka na generała — jug. 30.IX—1.X. W kręgu zła — fr. 4—5.X.

**Dubicze Cerkiewne** Dowódca łodzi podwodnej — radz. Wakacje we czworo — wł. 1—5.X.

**Gródek** Haiti wyspa przeklęta — USA 4—5.X.

**Kleszczele** Hasło korn — pol. 30.IX—1.X. Gra złudzeń — fr. 2—3.X. Awans — pol. 4—5.X.

**Michałowo** Człowiek, który przestał palić — wł. 30.IX.—1.X. Królewna w oślej skórze — fr. 2—3.X. Y-17 — buł. 4—5.X.

**Milejczyce** Dziewczyna z gór — jug. Zew krwi — ang. 1—5.X.

**Narew** Dowódca armii — radz. Gwiazdy są oczami wojownika — ang. 1—5.X.

**Narewka** Faraon — pol. 1—5.X.

**Nurzec** Dzikie dziecko — fr. 30.IX.—1.X. Koniec wakacji — pol. 2—3.X. Godzina za gogodziną — pol. 4—5.X.

**Orla** Helga — RFN. Osobliwa miłość — wł. 1—5.X.

**Rajsk** Bezdomny — wł. Hrabina Cosel — pol. 1—5.X.

**Suchowola** Nie ma róży bez ognia — pol. Zasadzka — czes. 1—5.X.



B.Z.Graf. Zam. 2360. P-1.




# Бяда на голаў

Цяжка, паверце, сказаць, хто даў пачатак гэтай катастрофе. Ніхто да сёння не згаджаецца ўзяць на сябе адказнасць за ўсю гэту неразбярыху, не толькі што індывідуальна, а нават, падумайце, любенькія, камісійна.

Факт, аднак, застаецца фактам. Вырашылі мы, ведаеце, арганізаваць у нашай гміне „Дзень ветлівасці і добрых учынкаў". Пачалі чын-чынам. Ну, разумееце, рэклама, лозунгі, ідэйная падрыхтоўка насельніцтва і г.д. І вось урэшце настаў бярэменны падзеямі дзень.

Як прынята, распачалі мы ўрачыстай сходкай. Поўная зала народу, стол прэзідыума, мікрафон, бутэль з вадою і наогул усё, што мае быць. Нават госці з ваяводства і тыя былі.

І трэба ж, любенькія, што якраз падчас прамовы аднаго з гасцей усю залу патрасло гучнае „А-а-а-п-ч-хі, а-а-п-ч-хі, а-а-п-ч-хі!". Важная асоба на хвілінку замерла, пасля агледзела прысутных і крыкнула: „Хто гэта чыхнуў?". Наўкола ціха, ніхто не зварухнецца. „Прашу па-добраму прызнацца!" — прагучала ізноў. Далей цішыня, толькі ў апошніх радах зашушукаліся. Госць зняў акуляры, упёрся кулакамі ў стол і працадзіў: „Чакаю".

І толькі тады ўзнялася недзе пасярэдзіне залы пагорбленая, худая фігура гміннага бухгалтара Дрыжычкіна. „Я — я гэта, даруйце", — не сказаў, а неяк дзіўна прабляяў бедны, не смеючы нават вачэй падняць.

„ Вы? — начальства надзела акуляры і начало разглядаць панікнуўшага з жаху Дрыжычкіна. — Вы? Гмм. Ну дык значыць вам — на здароўе!"

Дрыжычкін як стаяў, так з уражання і плюхнуўся задам. У ціхай спачатку зале раптам нешта быццам забулькала, пасля, як у кіпеўшай кашы, запырскала і ўрэшце прарваўся гучны здаровы смех. „Цішэй прашу! Цішэй, грамадзяне!", — пратрубеў з укарызнаю начальнікаў голас. Людзі, здаецца, дарослыя — а ветлівасці звычайнай не разумееце".

Выразнае іржанне перайшло ў паасобныя пырскі, булькнула яшчэ раз і другі, зашалясцела і змоўкла.

Т-а-а-а-к. Як яно, міленькія, пачалося, так і пайшло далей. Ніводзін аўтобус не змог выехаць у пару з нашага прыпынку — настолькі яра грамадзяне-пасажыры адзін другога ўперад прапускалі. Бабку Чаўпоўскую, якая толькі дачку праводзіла, з увагі на век сілай у сярэдзіну ўпіхнулі, а, калі не хацела лезці, яшчэ каленам паддалі ззаду — да самага Беластока даехала.

У мясной краме каўбаса кракаўская, пэўна, аж да наступнага дня спакойна правісела б, ніхто не рушыўся першым падыйсці да прылаўка. Прынясло, аднак, аднекуль двух чужакоў, неасвядомленых, камандзіровачных, якія, не зважаючы на лозунгі, хацелі выкарыстаць шанцы. Наклалі ім па карках усёй чаргою — будуць ведаць наступным разам, што ў нас, калі дзень ветлівасці, дык так і мае быць.

Найбольш, пэўна, пацярпеў усё ж наш музыкант Сяргей Юрчынскі. Папрасіла яго, бачыце, замужняя суседка памагчы тапчан у другое месца перасунуць — муж на рабоце, а яна па слабасці сіл адна не давала рады. Хлопец, да мазга касцей добры, не толькі памог, а яшчэ, як кажуць, і на іншыя добрыя ўчынкі не скупіўся. Было б усё добра, калі б мужык раней з працы не вярнуўся. Давялося хуткую дапамогу клікаць, і, пэўна, разводавая справа ў судзе будзе.

Дантыст наш, хочучы ў гэтакі дзень таксама бліснуць, паштальёну, які газеты прынёс, пакуль той паспеў адгукнуцца, два здаровыя зубы вырваў.

Найгорш за ўсё, што кіраўнічка гасподы з ветлівасці і па дабраце сардэчнай гарэлкаю таго дня таргавала да адказу, і камендант пастарунку, шкадуючы нас і сем'і нашыя, цэлы арганізацыйны камітэт і яшчэ некалькі добраахвотнікаў да самай раніцы ў арыштце пратрымаў. Цэлае шчасце, што на наступны дзень было ўжо не свята, і мы яму маглі ўсё, што пра яго думаем, выказаць.

Ва ўсякім выпадку, беручы яшчэ ва ўлік кошты судовай калегіі, якая нашыя справы разглядала, мы вельмі добра зразумелі, чаму гэта ў сённяшні час добрыя ўчынкі сталі такімі рэдкімі, а ветлівасць такой дарагой штукай. Не верыце — паспрабуйце самі.

**Ларс**



*А сённяшні дзень уваходзіць у Саколку вось такімі жыллёвымі кварталамі.*

# САКОЛКА

З розных крыніц выводзяць сакальчане паэтычную назву свайго горада. Адны дашукваюцца яе пачаткаў у стаяўшым тут некалі пушчанскім двары з сокаламі, з якімі любілі паляваць князі вялікія літоўскія і каралі польскія на прасторных узлесках і ў неабсяжных гушчэчах колішняй Гродзенскай пушчы, і бачаць ужо ў зародку свайго горада яго сённяшні сакаліны ўзлёт. Іншыя ж, схіляючыся больш да пясчанай ды крамяністай тутэйшай зямлі, знаходзяць пачатак назвы Саколка ў словах „сухалда" і „сухолдка", якімі спакон веку завуць тут сяляне самы благі, няўкосны луг. А калі я задумваюся, што з іх бліжэй праўды, тады мне прыгадваецца чароўны матыў народнай песні *„Саколка ты мая шызакрылая..."*, якую пяюць тут у навакольных вёсках і ў якой юнак прызнаецца дзяўчыне ў сваіх самых гарачых пачуццях.

І Саколка звыш 400 год віла сваё гняздо на беразе празрыставоднай Сакалды. І хоць за гэтыя стагоддзі налятаті навальніцы і буры, нішчылі яго і раскідалі, але яна карпатліва і нястомна абнаўляла свой наседжаны куточак. Не пакладаючы рук, узводзіла ўтульныя драўляныя домікі і заможныя вострадахія камяніцы, як дзяўчына-красуня свой агародчык зялёнай рутай, абсаджвала яна ціхія вулачкі меданоснымі ліпамі і цешыла вока іх кучаравай прыгажосцю...

І кожнаму, хто завітае ў гэтае ціхае і працавітае гняздзечка, сэрца палоніць яго краса і ўтульнасць.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*У царксе, што атуліласа засенню ліп, знаходзіцца старажытная ікона з XVI ст.*



*Высіцца абеліск у памяць сакальчан, загінуўшых у барацьбе з фашыстамі і рэакцыйным падполлем.*



*У сонечных промнях спакойна дрэмлюць утульныя драўляныя домікі.*




# Тры тэзісы Аляксандры Бергман

У другім сшытку „Пшэглёнду гістарычнага", які нядаўна з'явіўся ў продажы, змешчана чарговая публікацыя Аляксандры Бергман, прысвечаная Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе. Як заўсёды, цікава і са свежым поглядам напісана — **„Вяртаючыся да пытання Грамады"**. Яна шчасліва супадае з пяцідзесяцігоддзем гэтай арганізацыі.

Фармулюючы свае погляды на некаторыя пытанні Грамады, Аляксандра Бергман прааналізоўвае галоўныя фактары, якія абумовілі заснаванне яе. Высоўвае тры тэзісы.

У першым — сцвярджае, што Грамада ўзнікла з дзвюх плыняў: радыкальнага крыла беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і камуністычнага руху. Выкрывае спробы сектанцкай трактоўкі пытанняў заснавання ды дзейнасці Грамады.

У другім — Аляксандра Бергман указвае, што ранейшае заснаванне Грамады з'яўлялася немагчымым з увагі на незакончаны працэс выспявання беларускага радыкальнага руху, а аднаму камуністычнаму было гэта не пад сілу; Камуністычная партыя Заходняй Беларусі ў той час амаль зусім не мела беларускіх кадраў.

Заўчаснасць планаў стварэння масавай беларускай партыі, відаць, лепш за ўсіх разумеў сам Браніслаў Тарашкевіч, які ўвосень 1923 г. адмовіў беларускім эсэрам у адказ на іх прапанову ўзначаліць задуманую імі левую сялянскую арганізацыю.

У трэцім тэзісе А. Бергман спыняецца над складанымі ды недаследаванымі пытаннямі „выбуху" грамадаўскага руху, да якога магло дайсці толькі дзякуючы падрыхтоўцы яго ў таямніцы перад санацыйнымі ўладамі і — знянацку! Цэнтральная роля належыць тут Браніславу Тарашкевічу, які праявіў сябе вялікім беларускім палітыкам.

Увосень 1925 года адбылася Гданьская канферэнцыя, падчас якой прадстаўнікі камуністычнага і беларускага рухаў, абмеркаваўшы міжнародны аспект беларускага пытання ды магчымасці заснавання масавай беларускай арганізацыі, даручылі Браніславу Тарашкевічу скласці праект праграмы дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Першая версія гэтага праекта, у складанні якога рашаючы голас належыў прадстаўніку ЦК КПП Скульскаму, была адхілена ўдзельнікамі канферэнцыі.

Першарадным фактарам, які спрыяў будучаму хуткаму росту Грамады, трэба лічыць таксама і тое, што ў выніку антыбеларускай палітыкі тагачаснага польскага ўраду ды абыякавасці Еўропы на беларускае пытанне раптоўна шырыліся сярод беларускай інтэлігенцыі прасавецкія настроі. Беларускія дзеячы з часам зразумелі, што ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе могуць яны сур'ёзна разлічваць на падтрымку толькі з боку камуністаў. Ужо ў снежні 1925 г. Браніслаў Тарашкевіч стаў членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Іншыя беларускія паслы ў польскі сейм уступілі ў КПЗБ у другой палове 1926 г., у разгар дзейнасці вялікай Грамады.

Аляксандра Бергман заўважае, што сярод вядомых ёй дакументаў наконт Грамады самымі каштоўнымі ды аўтарытэтнымі з'яўляюцца: аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча, напісаная ім дзеля ўнутраных патрэб 15 снежня 1933 г. у Маскве, выказванні ды артыкулы В. Міцкявічуса-Капсукаса, матэрыялы Прыбалтыйскага сакратарыята Камінтэрна, выступленне Тарашкевіча падчас апошняга суда ў Вільні, у канцы 1932 г., і дакументы чацвёртага з'езду Камуністычнай партыі Польшчы.

**Сакрат Яновіч**

 

Пачатак на стар. 1

# РУНО-АМАЛЬ ЗАЛАТОЕ



чэ вучыліся. Рук да працы не хапала. Вось і падумаў я, каб заняцца авечкамі. Гэта жывёла спакойная, вялікіх турбот пры ёй не будзе. І ўлады сталі агітаваць сялян, каб заняліся авечкагадоўляй. Спрабаваў, і ўжо пяты год цягну гэтую справу.

— І як?

— Добра, вельмі добра. У мінулым годзе, дзякуючы авечкам, мая хатняя каса папоўнілася амаль на 100 тысяч злотых. Гэта дазволіла мне абсталяваць цэнтральнае ацяпленне, водаправод і каналізацыю, ванную і ўсё іншае, што патрэбна сучаснаму чалавеку ў хаце, асабліва ў вёсцы, дзе цяжкая і найчасцей брудная праца.

Каб не брэх сабакі і густая сакавітая зеляніна дрэў за вокнамі, я б падумаў, што знаходжуся ў тыповай гарадской кватэры. Тэлевізар, радыёпрыёмнікі, гадзіннік з зязюляй, кніжкі і газеты, сярод якіх з прыемнасцю знайшоў я „Ніву". Гасцінны пакой застаўлены поўным гарнітурам бліскучай мэблі.

— Каб не мае авечкі, — зусім шчыра гаворыць Мікалай Пучынскі, — я б і да смерці не нажыў бы ўсяго гэтага.

— Нашу сям'ю, — гаворыць Мэрыя, — гітлераўцы выгналі з вёскі, дом спалілі, а сястру Олю пагналі на катаржныя работы ў Германію. Яна так і дагэтуль не вярнулася на бацькаўшчыну. Была ўпэўнена, што тут нікога і нічога не асталося, што няма да чаго ёй вяртацца. І мы таксама думалі, што яна спачывае ўжо ў нейкай чужой зямельцы, а яна апынулася аж у Канадзе, у горадзе Монрэаль. Толькі ў 1954 г. даведаліся мы, што яна жыве. У Нараўку прыйшло тады пісьмо, заадрасаванае прыблізна так: *„Каму-колеч, хто жыве з сям'і Пучынскіх з Новага Ляўкова"*. А пасля яна прыехала нас наведаць.

— А цяпер, — дадае яе муж, — у яе ў гасцях знаходзіцца наша дачка Галенка. Ужо трэці год жыве там, працуе, бо яна закончыла Бельскі тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства, мае прафесію, дык знаёмыя ўладзілі яе там на працу.

— Калі так, то яна бадай ужо не вернецца ў Польшчу? — гавару.

— Не, у Канадзе яна не хоча аставацца, — упэўнена заяўляе маці. — Піша нам, што вельмі сумуе за домам. Толькі не хоча вярнуцца з пустымі рукамі.

— А чым заняты вашы іншыя дзеці?

— Дачка Ірка пасля беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы закончыла двухгадовы керамічны тэхнікум і працуе ў горадзе Сьрода Слёнская, а сын Міхась цяпер служыць у войску. У ім уся наша надзея. Хаця ён столяр і цясляр, то хоча астацца на гаспадарцы. Сам ён кажа, што тут на нашай калёніі яму найлепшая „Канада", што тут таксама можна здабываць сваё залатое руно.

**Віктар Рудчык**

# Родам з Беларусі

*Спісак польскіх гісторыкаў, што нарадзіліся ў Беларусі.*

*Гурскі Канстанцін (1826-1898) — нар. каля Гродна. Гісторык польскай ваеннай сістэмы.*

*Касцялкоўскі Станіслаў (1881-1960) — нар. у Гродне. Гісторык, даследчык польска-сірыйскіх адносін.*

*Корзан Тадэвуш (1839-1918) — нар. у Мінску. Даследчык гісторыі Польшчы XVIII ст., а таксама гісторыі войнаў ды гандлю.*

*Сянкевіч Юры— нар. у 1897 г. у Брэсце. Гісторык мастацтва, музеолаг, знаўца гісторыі польскага жывапісу XIX ст.*

*Уляноўскі Баляслаў (1860-1919) — нар. у Брэсце. Гісторык гаспадарчых і юрыдычна-касцельных адносін у сярэдневяковай Польшчы.*

*Ходзька Леанард (1800-1871) — нар. у Аборку, што ля Ашмян. Гісторык, публіцыст, эміграцкі дзеяч.*

*Цывінскі Станіслаў (1887-1941) — нар. у Магілёве. Гісторык літаратуры, даследчык творчасці Норвіда, Славацкага і Выспянскага.*

**П. Байко.**

## НЕБЯСПЕЧНАЯ ВЕЖА

У Бельску на чыгуначным вакзале высіцца старая воданапорная вежа. Яна падпёрта з усіх бакоў тоўстымі слупамі, аднак у любы момант можа паваліцца. А побач жа яе ездзяць паязды ды праходзіць многа людзей. Хіба гэта бяспечна?

Прыпамінаем аб гэтым гарадскім уладам у Бельску.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



# ПЛЁН НЯСЕМ МЫ, ПЛЁН

Урачыста пакланіўшыся зямлі, упаў пад касой свайго гаспадара апошні колас збажыны. Потым спрацаваныя рукі ўвязалі яго ў сноп ды ўскінулі на воз, які неўзабаве знік у пахучым хлебам і сенам горле гумна.

Наступіла свята ўраджаю. У апошнюю нядзелю жніўня Бельская і Боцькаўская гміны святкавалі.

Дажынкі Бельскай гміны адбыліся ў Кожыне. Па школьнай плошчы, залітай сонцам і ўпрыгожанай каласамі, сцяжкамі ды транспарантамі, ужо з самай раніцы хадзілі людзі. Хто аглядаў саламяныя вырабы; хто — выстаўку сельскагаспадарчых машын, падрыхтаваную бельскім СКР-ам; хто выстаўку пладоў, а хто проста нецярпліва чакаў пачатку.

А 11 гадзіне, пад незастыўшыя яшчэ ў паветры акорды дзяржаўнага гімна, у напрамку трыбуны, на якой стаялі гаспадар і запрошаныя госці, з дажынкавым вянком рушыў святочны карагод, наперадзе яго ішлі стараста Аўласюк Ян з Агароднік і старасціна Зофія Снядэцкая з Зубава, несучы традыцыйныя бохан хлеба і соль. Уручыўшы яго гаспадару — сакратару Гміннага камітэта партыі Уладзіміру Бручко, занялі сваё ганаровае месца. Потым пачалі ўручаць дыпломы і ўзнагароды. Пяць чалавек, гэта значыць: Сідорскі Мікалай з Пілік, Заброцкі Ян з Аўтустова, Станіслаў Кажушкевіч з Серакавізны, Аўласюк Ян з Агароднік і Міхась Чаламей з Бельска — атрымалі значок „Заслужаны для Беласточчыны". Апрача таго, каб вылучыць сярод земляробаў і трактарыстаў самых найлепшых у гміне, Прэзідыум ВК ФАН прызнаў дыпломы Андрэю Лук'янюку — солтысу з Кожына, Віктару Малашэўскаму — трактарысту, Янку Мінкевічу — трактарысту, Маслоўскаму Пятру, Антону Кожану і Мікалаю Серадынскаму.

Пасля заканчэння афіцыйнай часткі на трыбуну пачалі ўваходзіць калектывы і цешыць людзей песнямі, гумарам, вершамі. Пахваліць тут трэба нашых наймалодшых з Лубіна, якія пад кіраўніцтвам дырэктара школы падрыхтавалі даволі цікавую праграму. Былі тут яшчэ калектывы з Плёсак, Бельска, Дубяжына.

У той час, калі звінелі песні, спартыўныя каманды з Зубава, Катлоў і Бельска, не ведаючы, што дзеецца навокал, змагаліся за першае месца ў валейболе.

✲

Не менш урачыста было і ў Боцьках. Пачынаючы ад 9 гадзіны, гучнагаварыцелі безупынна падавалі праграму і віталі прадстаўнікоў розных вёсак, якія ўязджалі з прыгожымі вянкамі. Гаспадары дажынак: сакратар Гміннага камітэта партыі Віталі Леўчук і начальнік гміны Канстанцін Санкевіч, пераняўшы ад старасціны Юрчук Валянціны з Нурца і старасты Барысюка Міхася з Андрыянак прыбраны калоссем і вінаградам бохан хлеба, шчыра падзякавалі ўсім земляробам за іх плённую працу.

У дажынках прымала ўдзел уся гміна. У кожным куточку панаваў прыўзняты святочны настрой. Усё было дакладна распланавана. Ад самай раніцы да самага вечара адбываліся мерапрыемствы. Ужо а 8 гадзіне пяць трактарыстаў, заняўшы свае месца за рулём, распачалі спаборніцтвы ў аранні. Пераможцам выйшаў Карнілюк Мікалай з Старога Сяла.

Не забыла начальства гміны і пра сваіх найлепшых. Раздалі шаснаццаць дыпломаў кваліфікаванага земляроба і адзін дыплом майстра.

Пасля заканчэння першай часткі над галовамі людзей зазвінелі песні школьнікаў. Не адбылося і без сельскагаспадарчай алімпіяды. Даволі цікавым быў гэты пункт праграмы. Ніхто не рыхтаваўся, нічога не думаў — і раптам аб'явілі праз гучнагаварыцелі. Восем мужчын і адна жанчына выйшлі з натоўпу. Перамагла „тая адзіная", Галіна Хількевіч.

Разнавіднае было святкаванне. Кожны мог знайсці тое, што яго цікавіць Напрыклад, выстаўкі. Апрача гародніны, розных відаў збожжа, малочных вырабаў, садавіны, сельскагаспадарчых машын, была цудоўная выстаўка кветак, арганізаваная ў Гмінным цэнтры культуры.

Песні, выстаўкі, спаборніцтвы. Даўно такога не бачылі людзі ў Боцьках.

**М. Шаховіч**

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ЯН ЖУЖАЛЬ

Селянін Ян Жужаль з вёскі Міклашы Арлянскай гміны — гэта вопытны сучасны гаспадар. Карыстаецца ён сваімі сельскагаспадарчымі машынамі. Некаторыя машыны бярэ ў сельскагаспадарчым кааператыве ў Орлі. Апрацоўвае каля 10 гектараў зямельных угоддзяў IV, V і VI класаў, на якіх сее паўтара гектара асноўных збожжавых культур, адзін гектар ільну, каля двух гектараў бульбы. Дзяржаве міклашоўскі земляроб прадае ў сярэднім больш 20 тон бульбы, 4 тоны ільну, 2,5 тоны кантрактаванага збожжа.

Найбольш гадуе свіней і кароў. Штогод дастаўляе на пункт скупкі 16-20 свіней першага класа, 1,5-2 тоны ялавічыны і 10-15 тысяч літраў кантрактаванага малака. Мае ён пяць дойных кароў і дзевяць штук маладзейшага дабытку. Працалюбівы гаспадар заканчвае пабудову вялікай механізаванай аборы. Задумаў ён гадаваць не менш 10 дойных кароў. Таму ў ліпені гэтага года Ян Жужаль купіў электрадаілку „альфа-ляваль", якую нялёгка раздабыць, паколькі карыстаецца яна вялікім попытам.

Міклашоўскі гаспадар умее задбаць пра корм для кароў. Сёлета нарыхтаваў 25 тон зялёнай масы ў сіласе, які ў яго для ўсіх напаказ. Насушыў і перахоўвае ў стадоле дастатковую колькасць сена. 4 тоны — ён прадаў яшчэ мясной цэнтралі.

— Задаволены я сваёй канюшынай, — кажа Ян Жужаль. — Яна ў мяне пад асаблівым доглядам. Сею яе каля двух гектараў. Сёлета прадаў я 300 кілаграмаў насення і ўзяў 22 500 злотых. Ахвотна купіла яго насенная цэнтраля ў Орлі. Пераканаўся я яшчэ ў тым, што мякіна канюшыны — добрая паша для свіней. Яны ахвотна яе ядуць.

Варта адзначыць, што ў мінулым годзе Ян Жужаль заваяваў ганаровае званне майстра прадукцыі ў Бельскім павеце за 1974 год.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXIV

**Рэлігійная тэматыка.** Рэлігійныя праблемы мала характэрныя для ўсёй беларускай паэзіі, незалежна ад гістарычнага перыяду, у які гэтая паэзія стваралася. І хаця ў беларускай літаратуры знаходзім некалькі паэтаў, у творчасці якіх рэлігійны матыў адзначаецца пэўнай дынамікай, то ўсё ж такі гэтага недастаткова для матывацыі тэзіса аб рэлігійнай плыні ў нашай літаратуры.

Жыццё Гаруна было цяжкім і магло б яно штурхаць паэта ў бок рэлігійнага містыцызму. Аднак, Гарун не пайшоў па такому шляху. У яго творчасці знаходзім усяго некалькі вершаў, прысвечаных рэлігійным праблемам. Да такіх вершаў залічаем: „Хрыстос нарадзіўся", „Малітва", „Бажанне" і часткова верш „Паэту".

І справа найважнейшая. Быў Гарун веруючым, ці атэістам? На падставе названых вершаў трэба было б сцвердзіць, што хутчэй быў атэістам, чым дэістам. Аднак цяжка тры ці чатыры вершы паэта трактаваць як абсалютна пераканаўчыя доказы ў такой важнай, як светапогляд, матэрыі. Прыступім да разгляду твораў. У вершы „Хрыстос нарадзіўся" паэт піша аб Велікодным святе і звязанай з ім надзеі на трыумф свабоды і праўды. Якраз матыў надзеі дамінуе ў двух першых строфах твора. Аднак у далейшых двух строфах паэт выразна гаворыць аб беспадстаўнасці, ілюзорнасці і наіўнасці такой надзеі:

*„Хрыстос нарадзіўся"! Ці ж мала мы чулі*
*Такую з нябес абяцанку?*
*А вочы свае ледзь ад сну разамкнулі, —*
*Няма і не бачна паранку!*
*„Хрыстос нарадзіўся!" А дзе ж яго знакі?*
*Цяпер я Тамаш і не веру.*
*Здаецца мне свет, як і быў адзінокі,*
*А ў ім лютавання без меры".*

Праўда, у апошняй страфе верша гаворыцца аб тым, што будучыя пакаленні дачакаюцца трыумфу ідэй, звязаных з хрысціянскімі ісцінамі, аднак гучыць гэта не як сапраўдная вера паэта ў такую магчымасць, а хутчэй, як традыцыйнае пажаданне. Прыведзеныя намі дзве страфы верша даволі выразныя ў сэнсе характарыстыкі светапогляду Гаруна. Тут паэт выразна называе рэлігійныя ідэі беспадстаўнымі, нерэальнымі абяцанкамі, а сябе няверным Тамашом. Нягледзячы на ўрачыстую абяцанку, што разам з нараджэннем Хрыста скончацца няшчасці людзей, свет здаецца паэту далей несправядлівым, недасканалым.

Зразумела, што чалавека, які звяртае ўвагу на ўсе гэтыя непаслядоўнасці і супярэчнасці рэлігійнай ідэалогіі, цяжка залічыць у лік рэлігійных прыхільнікаў і энтузіястаў.

Характэрны ў ідэйным сэнсе таксама верш „Малітва". У гэтым творы бачым Хрыста, які моліцца богу. Цяжка верш „Малітва" залічыць да пахвальнай оды ў чэсць бога. Хутчэй можна назваць яго літаніяй прэтэнзій, накіраваных у адрас неба. Зрэшты, прэтэнзіі гэтыя выказвае, бадай, не Хрыстос, а сам паэт, увасоблены ў постаць Хрыста. Гарун вуснамі Хрыста гаворыць аб недасканаласці свету, аб яго неўладкаванні, аб крыўдзе людзей, аб бяспраўі і бядзе. Прачытаўшы верш, міжволі паставіш пытанне: які ж той бог-тварэц, калі яго прадукт — свет недасканалы. Паслухайма прэтэнзіі Хрыста-паэта:

*„Дзівіся, Пане, слабы я,*
*Зусім не маю сілы,*
*Гарыць, баліць душа мая, —*
*О дай жа моцы, мілы!*
*Паглянь: паўсюды з краю ў край*
*Рабунак, глум панкуюць,*
*І льецца смех тых чорных зграй,*
*І ўсё з зямлёй раўнуюць.*
*Зірні: дзе гожасць тая, што*
*Надаў нам Міласцівы?*
*Тваіх правоў трымае хто*
*Братэрства, згоды хцівы?*
*Схініся к нам ты і абач: —*
*З гадзінай горш жывецца,*
*Цяжэе боль, мацнее плач*
*Галоў ўсё болей гнецца.*

Рэлігійны чалавек — гэта чалавек пакорлівы. У цытаваным вершы няма нават следу пакорлівасці. Ёсць у ім незадаволенасць, абурэнне, бунт. І хаця апошнія радкі твора ўтрыманы ў духу малітвеннай паслухмянасці, то ўсё ж такі радкі гэтыя не ў стане змяніць усяго бунтарскага настрою верша.



 




**ФОТА ПА ЗАКАЗУ** *Заказвала Ірэна Кузьма з Піражкоў.*

## Куток практычных ведаў

### ГАСПАДАРЧЫЯ ПРЫЛАДЫ

Жыхарам вёскі не заўсёды ўдасца знайсці адпаведнага майстра, калі ў яго, напрыклад, абваліўся тынк, пачала працякаць страха ці ў плоце выламалася адна жэрдка. Ды, зрэшты, калі б майстар і знайшоўся, рамонт каштаваў бы, а навошта гэта, калі гаспадар прасцейшыя работы можа выканаць сам?..

У добрага гаспадара павінны заўсёды быць пад рукой неабходныя для гэтага прылады. Павінны яны знаходзіцца ў адным месцы і быць добра дагледжаны. А вось якія гэта прылады.

На кожным амаль кроку патрэбны ў гаспадарцы малаток (a). Павінен ён важыць 0,5 кг, павінен таксама быць добра насаджаны, забяспечаны ж клінам з цвёрдай драўніны ці сталі, не толькі робіць працу лягчэйшай, але і ахоўвае перад нешчаслівым выпадкам.

Папулярныя абцугі (в) павінны быць добра навостраны і роўна сыходзіцца.

Вельмі патрэбны ў сталярскіх работах струг (d), папярэчная піла (c), а таксама свердзел з ручкай (f). Без напільніка (g) таксама цяжка абыйсціся. Адным словам, у гаспадарцы спатрэбіліся б многія прылады, усіх не пералічыш. Многія з іх могуць выконваць некалькі функцый у розных працах, іншыя ж — служаць выключна для адной.

**Гаспадар**



## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Якое гэта шчасце кахаць і быць каханым! Але як жа цяжка, калі гэтае каханне неспадзявана канчаецца. Была ў мяне дзяўчына. Было гэта перад войскам. Як цяжка было расстацца, калі я адыходзіў у армію... Не пускала мяне, калі сядаў я ў цягнік, плакала, прасіла пісаць, абяцала верна чакаць. Заехаўшы на месца, адразу выслаў ёй пісьмо. Пісалі мы пасля пісьмы часта. І нечакана парвалася наша сувязь. Не ведаў я, у чым справа. Ніякай весткі не атрымаў. Але аднойчы атрымаў пісьмо ад калегі. Пісаў, што Эля, мая дзяўчына, мае іншага хлопца, пра вяселле ў вёсцы гавораць. Колькі ж я тады перажыў! У маім няшчасці памаглі мне сябры-вайскоўцы. Яны мяне пацяшалі, і нейк лягчэй станавілася на душы. Прабаваў я пазнаёміцца з іншай, але нічога не выйшла. Адну толькі яе бачу і толькі яе голас чую. Ужо хутка канчаецца мая служба, ужо жыву тым днём, калі вярнуся ў родную вёску. І вось неспадзявана я атрымаў пісьмо ад Элі. Піша, што пакінула таго хлопца, просіць прабачэння, гаворыць, што толькі мяне кахае, а тое, што зрабіла, было вялікай памылкай, што з нецярплівасцю чакае спаткання са мной. Я аднак цяпер не магу паверыць, што яна мяне кахае, што гаворыць праўду. Ужо думаў, не, не вярнуся, але сэрца маё дыктуе другое — толькі да яе, як найхутчэй. І што ж мне рабіць? Парай, „Сэрцайка“!

**Расчараваны Вася**

**Вася!** Кахаеш ты Элю, але і яна цябе таксама. Вось якраз тады, калі цябе не стала і пазнаёмілася яна з іншым (гэта бывае, дзяўчына маладая), пераканалася, што кахае толькі цябе. Яна ж пакінула гэтага хлопца. А ты таксама не змог сябраваць з іншай. Значыць, вашы сэрцы да сябе належаць. Дык жадаю прыемнага і хуткага спаткання з каханай дзяўчынай.

**„Сэрцайка“**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Снілася мне, што еду з дачкой поездам. Поезд набліжаецца да прыпынку, мы збіраемся выходзіць. Дачка ідзе на перадзе, а я за ёю. Раптам чую: нейкая жанчына, якая сядзела ззаду нас, крычыць мне, што асталіся мае нейкія рэчы. Я аглянулася, збіраю нейкія шматкі. Ізноў іду, але не ўсё пазбірала, дык давай рэшту збіраць, а цягнік ужо мае затрымацца. Я баюся, што не паспею выйсці. Спяшаюся і выходжу з вагона. Бачу, нейкі незнаёмы горад. Няма дачкі, іду далей адна. Перада мною відаць частка мора, пры беразе стаіць параход. Іду далей і ўрэшце спатыкаю дачку. Прачынаюся. Што думаць пра гэты сон?“

**Гражына**

Адказ на ваш сон не будзе лёгкі і, можа, не такі пацяшальны, як вам бы хацелася. Калі прысніцца дачка — вядома: нейкія клопаты, смутак, непрыемнасць. Тым больш, што вы ехалі поездам, былі ў вагоне, а гэта ўжо б азначала нават нейкую небяспеку. Добра, што хоць вышлі з вагона. Ці вы не збіраеце нейкага вяселля? (Вы ж збіралі шматкі, а абазначаюць яны нейкую нажыву, урачыстасць, вяселле!). Параход, які вы ўбачылі, абазначае выгаднае падарожжа.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Гарадскія ўлады правялі ўрэгуляванне будаўнічых пляцаў, прычым была ліквідавана дарожка, якая была зручная для даезду на поле. Ці ўлады маглі ліквідаваць дарогу, паколькі нерухомая маёмасць не была экспрапрыіравана дзяржавай? Ці можна дабіцца ад суседзяў, да пляцаў якіх прылучана дарога, каб не перашкаджалі карыстацца дарогай?

АДКАЗ: Гарадская ўправа мае права, на аснове закону ад 6.07.1972 г. аб раёнах сямейнага і сядзібнага будаўніцтва і падзеле нерухомай маёмасці ў гарадах і гарадскіх пасёлках, праводзіць падзел гарадской нерухомай маёмасці на будаўнічыя пляцы. Уласнікі зямель, на якіх праводзіцца падзел на пляцы, атрымліваюць пасля рэгуляцыі адзін пляц. Пры падзеле граніцы ўчасткаў, якія былі дагэтуль, могуць быць зменены. Пры падзеле рэгулююцца таксама даезды да паасобных участкаў, якія, як правіла, з аднаго боку гранічаць з вуліцай. Падзел на пляцы праводзіцца адміністрацыйным парадкам, і зацікаўленыя асобы могуць прад'яўляць свае пажаданні. Пасля таго, калі падзел будзе правамоцна закончаны, ніякія змены не могуць быць уведзены. Таму гарадскія ўлады мелі права ліквідаваць дарогу, а няма магчымасці звярнуцца з якімі-колечы патрабаваннямі да суседзяў.



*Народны ансамбль песні і танца „Маладосць“ Палаца культуры мясцовай прамысловасці горада Віцебска.*
*Фота Э. Трыгубовіча.*




### ЗАГАД ГЕРЫНГА

Калі члены экіпажа, якія займаліся прычальваннем дырыжабля, пачалі выкідваць канаты цераз спецыяльныя люкі, адзін з іх Хельмут Лаў, убачыў моцную ўспышку перад камерай № 4. Пачуўся нягучны воплеск, быццам запалілі газавую духоўку. Гэта нават не было падобна на выбух.

У гэты момант яны ўбачылі чырвоную ўспышку.

Эрых Шпель, які быў у насавой частцы, адчуўшы моцны штуршок, пачуў другі выбух. Праз ілюмінатар ён зноў убачыў чырвоную ўспышку, якая пагражала паглынуць увесь дырыжабль. Шпель паглядзеў на гадзіннік: 19.25. Гадзіннікавы механізм спрацаваў вельмі рана! Магчыма, ён няправільна ўстанавіў указальнік часу? А магчыма, здарылася што-небудзь у механізме?

Эміль Штэкль, які знаходзіўся на борце ў якасці пасажыра і паштовага інспектара, упаў, ударыўшыся аб перагародку сваёй каюты, але змог устаць і падысці да акна. Ён сеў і пачакаў, пакуль дырыжабль наблізіцца да зямлі. Калі карабель ударыўся аб зямлю, пачуўся страшэнны грукат. Адзін з ілюмінатараў разбіўся, і Штэкль, выскачыўшы з яго, упаў на зямлю, ускочыў і кінуўся ўцякаць.

Калі ўспыхнулі ўсе 200 тысяч кубаметраў вадароду, велізарны вогненны шар узняўся над дырыжаблем.

Йозэф Шпа ўбачыў агонь, калі быў у абедзенным салоне. Ён выбіў фотаапаратам акно. Пасыпаліся асколкі шкла. Два пасажыры тут жа вылезлі ў акно, і Шпа за імі. Усе трое павіслі са знадворнага боку гандолы. Йозэф Шпа дзякаваў богу за тое, што вучыўся цыркавому мастацтву. Двое іншых не змаглі ўтрымацца за канат і ўпалі з 30-метровай вышыні. Але Шпа вісеў да таго часу, пакуль вышыня, як ён думаў, не зменшылася метраў да дваццаці. Затым ён саскочыў уніз, згрупаваўся і, упаўшы, пакаціўся кулём. Ускочыўшы, ён збіў з сябе пыл і гразь і кінуўся ўцякаць.

З моманту другога выбуху да таго, як рассыпаўся каркас дырыжабля, прайшло ўсяго 34 секунды. Але агонь палаў яшчэ некалькі гадзін. Калі пачаўся наступны дзень — гэта была пятніца, — ад дырыжабля заставаўся толькі сагнуты шкілет, як ад пакалечанага кіта, выкінутага на бераг, і свастыка на недагарэлым хвасце.

У Лейкхэрсце быў тэрмінова арганізаваны перавязачны пункт, дзе Йозэфу Шпа наклалі гіпс на ступню. Пакольні ён гаварыў па-нямецку, санітарка прасіла яго прайсці ў суседні пакой, каб дапамагчы аднаму маладому хлопцу з экіпажа „Гіндэнбурга“ адправіць тэлеграму ў Германію. Ён моцна пацярпеў ад апёкаў, і таму не мог пісаць. Шпа запісаў адрас і тэкст тэлеграмы, у якой гаварылася: „Я жывы“. Але тэлеграма так і засталася неадпраўленай, бо малады чалавек, якога звалі Эрых Шпель, раптоўна памёр.

З 36 пасажыраў 13 або загінулі на полі, або памерлі ў шпіталі. З 61 члена экіпажа загінула ці памёрла ад ран і апёкаў 22. Загінуў адзін тэхнік аэрадромнай службы. Разам з 13 пасажырамі колькасць загінуўшых складала 36 чалавек.

Расследаванне, прызначанае міністэрствам гандлю ЗША, заняло нямала часу. Адны апытанні працягваліся цэлы месяц. Выказваліся самыя розныя версіі наконт прычын выбуху. Цяжкасць заключалася ў тым, што амерыканцы ўпарта адмаўлялі магчымасці дыверсіі, перш за ўсё з жадання пазбегнуць абвастрэння міжнародных адносін. Найбольш верагоднай прычынай быў прызнаны каронны разрад. Немцы таксама не вельмі стараліся дакапацца да сапраўдных прычын выбуху. Германская камісія па расследаванню атрымала загад Герынга „нічога не адкрываць“. Нельга было дапусціць думкі, што некалькі чалавек маглі разбурыць галоўны сімвал „рэйха“.

Абломкі дырыжабля, якія згарэў у Нью-Джэрсі, былі прададзены на металалом за 4 тысячы долараў і затым перапрададзены ў Германію, дзе былі перапла ўлены і выкарыстаны для будаўніцтва самалётаў.

**Канец.**



## ЛІФТ



Пабудавалі для нашай установы шматпавярховы будынак са шкла і жалезабетону. І калі мы перайшлі працаваць у новы корпус, ахнулі: гэта было апошняе слова архітэктуры!..

Але больш за ўсё нас, супрацоўнікаў, у новым будынку абрадаваў ліфт. Раней у старым памяшканні мы поўзалі з паверху на паверх пешшу. А цяпер не паспеем пазяхнуць, ліфт тут як тут. Адчыняюцца дзверы, заходзіш у кабіну, націскаеш на патрэбную кнопку, і кабіна ляціць. Паспяваеш толькі прачытаць на сценцы кабінета: „Грузападымальнасць ліфта не больш чатырох чалавек".

Так мы ездзілі дзень, тыдзень, месяц і ўсе былі задаволены.

Ды аднойчы ў кабіне ліфта з'явіўся нейкі здаравенны малады мужчына ў акулярах. Ён з разумным выглядам сядзеў у кутку кабіны на крэсельцы. Перад ім на маленькім століку ляжалі кампютэр, хранаметр і розныя паперы. Над галавой вісела таблічка: „УПП" (улік перавозкі пасажыраў).

З гэтага дня месца ў ліфце стала менш. Супрацоўнікі нашай установы спачатку крыху пабурчалі, а потым памалу прызвычаіліся...

Прайшло крыху часу, і ў другім кутку кабіны з'явіўся яшчэ адзін чалавек. На яго стале ляжалі анкетныя паперы, даведнікі. А на сценцы вісела таблічка: „СДП" (сацыялагічнае даследаванне пасажыраў). У ліфце стала яшчэ цясней. Супрацоўнікі зноў пабурчалі крыху і памалу астылі.

Праз нейкі час у кабіне ліфта з'явіўся трэці чалавек. На яго стале ляжалі нейкія паперы з запісамі, сталі мудрагелістыя прылады. Над сталом вісела таблічка „ПДП" (псіхалагічнае даследаванне пасажыраў). Пасля гэтага ў ліфт з цяжкасцю мог улезці толькі адзін пасажыр. Супрацоўнікі крыху пабурчалі і памалу прызвычаіліся...

Ды неўзабаве апошняга пасажыра — супрацоўніка выцясніў чацверты незнаёмец. Ён на самым відным месцы, пасярод кабіны, над сваім столікам павесіў таблічку: „Кіраўнік НОТ". З той пары супрацоўнікі нашай установы, гэта значыць былыя пасажыры, зноў поўзалі пешшу з паверху на паверх. Вядома, яны крыху пабурчалі, ды потым прызвычаіліся і аб ліфце забыліся наогул.

А ля ўваходу у ліфт з'явілася аб'ява: „Навукова-эксперыментальнай арганізацыі для правядзення даследаў тэрмінова патрэбны пасажыры"...

**Артур Джалан**



# НІЙКА



*У век урбанізму...*

### ПРЫЧЫНА

Над дарогай сцелецца густы туман, у двух метрах ужо нічога не відаць. Дзве машыны едуць адна за другою вось ужо на працягу цэлай гадзіны. Раптам першая рэзка тармозіць, і другая адразу ж уразаецца ў яе. Вадзіцелі выскачылі з машын.

— Чорт вазьмі, ці ж можна так рэзка тармазіць без усялякай прычыны! — крычыць другі вадзіцель.

— Без усякай прычыны?! — перапытвае першы. — Ды вы паглядзіце ўважна: я ўжо стаю ў сябе ў гаражы!

## ГУМАР З

### БЯЗРУКІЯ

Недзе, калісьці, кажуць, быццам ў нейкім царстве-гасударстве за хабары праву руку адрубалі.

Ну, але аднойчы ўзялі ды й засудзілі нейкага хабарніка за хабары. Трэба, значыць, яму правую руку адрубаць. Ну, адрубаць павінны суддзі, паліцыя. Кінуліся да іх, а ў іх ва ўсіх даўно ўсе рукі паадрубваны.



**...Нават выступаючы на сходах, ён далучаўся да папярэдняга аратара.**

**...Утапіцца можна і ў кілішку, — перасцерагаў Камар Муху.**

### ЗДАГАДАЎСЯ

Настаўнік:
— Чаму Чычыкаў купляў мёртвыя душы?
Вучань:
— Хацеў атрымаць большую кватэру.

### ІДЭАЛЬНАЯ

— Ну, як твая жонка?
— Яна была б ідэальнай жонкай, калі б не патрабавала ад мяне, каб я быў ідэальным мужам.

### КЛЮЧ

— Што ты робіш?! Ты хочаш папяросай адамкнуць дзверы?
— Няўжо? Значыць, я выкурыў ключ.

### АБАВЯЗКІ

Маленькага Янку папрасілі дапамагчы бабулі па гаспадарцы. Праз некалькі мінут мама прыходзіць на кухню і бачыць бабулю, якая працуе не складаючы рук, і Янку, якіназірае за ёю.

— Чаму ж ты нічога не робіш? — пытае мама.

— А мы з бабуляй падзялілі абавязкі, — адказвае хлопчык. — Яна, напрыклад, чысціць цыбулю...

— А ты?

— А я плачу...

### ДОБРА ЗВАРВАЕ

На рабоце слесар пытае электразваршчыка:

— Навошта ты дрот з сабою ўзяў?

— Ды звязваць, каб не разлезеліся дэталі, якія я звару.

### ВЯЛІКАЕ І МАЛОЕ

*Апоўдні вол вярнуўся з працы,*
*Каб адпачыць, падсілкавацца,*
*І гаспадар яго частуе,*
*Ну, проста ў ім душы не чуе,*
*Яму ён сечкі падсыпае,*
*Працаўніком вялікім называе.*

*Усім вядома: мей заслугі вол,*
*Ды ўзбунтаваўся, не сцярпеў казёл:*
*— Чаму валу такая слава?*
*Не чыстая, відаць, тут справа!*
*Скажыце, чым я горшы за яго!*
*Вось толькі ростам я... таго.*

*— А ты ўзбярыся на паркан, —*
*Прапанаваў яму баран.*
*Казёл туды ўзлезеў з падскокам,*
*Трымае галаву высока.*

*А певень закрычаў: — Хвала!*
*Казёл вышэйшы за вала!*
*З ім пагадзілася авечка і свіння.*
*Але каза сказала:*
*— Злазь, перастань хваліцца!*
*Зірні: і ўнізе вол — велічыня,*
*А верабей дык і на вільчыку —*
*драбніца.*

**Сямён Пацёмкін**





### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марыі Карпюк, Аліны Прыгарук з Агароднікаў, Данэуты Пагажэльскай з Адрынак, Яніны Нічыпарук з Чэхаў Арлянскіх, Галіны Ювзюк з Барысаўкі, Анны Шымчук, Іяланты Парфенюк, Яўгеніі Андраюк з Яцэвіч змяшчаем песню

## H'ASTA MANIANA

tekst polski: A. Kudelski
muzyka: Anderson
śpiewa: Anna Jantar

Ostatni dzień w Barcelonie
ostatni z tobą dzień
Wakacje już
skończyły się
Nie powiem jednak żegnaj
Lecz do jutra

Asta maniana
Jutro też jest dzień
Taki sam
tylko ja
muszę pożegnać Barcelonę już
Nie powiem jednak żegnaj
lecz do jutra
Asta maniana
ty odpowiesz mi
Nie wiesz nic
nie wiesz, że
skończyła się
piękna przygoda
wiecznie trwać
przecież nie mogła
Asta maniana — miły
Asta maniana — bywaj zdrów

Cudowne dni w Barcelonie
minęły niby sen
I trochę żal
że skończy się
ostatni dzień wakacji
czas odjeżdżać
Asta maniana
Jutro też jest dzień
Taki sam
tylko ja
itd.

## КУРЁЗЫ

### НЕ ТАМУ ВУЧЫЎ...

Паліцыя Осакі арыштавала 25-гадовага настаўніка Е. Нацукі. Двойчы на тыдзень у сябе дома ён даваў прыватныя ўрокі па арыфметыцы, англійскай і японскай мовах. Як высветлілася, зусім не педагогіка прыносіла Нацукі асноўны даход. Ён прымушаў сваіх вучняў красці ў школах, магазінах, абкрадаць кватэры. Усяго было ўкрадзена больш чым 80 тысяч іен наяўнымі і прыкладна на мільён іен магнетафонаў, фотаапаратаў і да т.п.

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ АЎТАГОНКА

Незвычайная аўтагонка адбылася на схілах гары Вашынгтон у амерыканскім штаце Нью-Гэмпшыр.

У заездах удзельнічалі машыны, створаныя майстрамі-аматарамі, прычым галоўная ўмова заключалася ў тым, каб яны прыводзіліся ў рух рухавіком на любым паліве, акрамя бензіну.

Большасць машын, заяўленых на гонку, была абсталявана электрычнымі маторамі. Сярод іх — трохколавы матацыкл — з... паравым рухавіком і мікрааўтобус, забяспечаны газавым маторам, які працуе на прадуктах раскладання арганічных адходаў.

Мэтай гонкі было зусім не дасягненне максімальнай скорасці на звілістай горнай дарозе — наадварот, арганізатары пастанавілі, што ўдзельнік, які перавысіць сярэднюю скорасць 32 кіламетры ў гадзіну, будзе дыскваліфікаваны. Вышэй за ўсё цаніліся эканамічнасць, магчымасць прайсці як мага большую адлегласць з найменшай затратай энергіі, а таксама арыгінальнасць канструкцыі.




*Сізіфа ведаюць усе. А тыя, што завалаклі камень на гару, засталіся невядомымі.*